**№31 (1844)**

Пятніца , 20 лютага 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец: УП «Народная воля»

Кошт свабодны.


# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

Якуб КОЛАС


E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by


### Надвор'е

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — -9...-7, уначы — -6...-4, на працягу сутак — без ападкаў; у Брэсце ўдзень — -6...-4, уначы — -8...-6, на працягу сутак — без ападкаў; у Гродне ўдзень — -6...-4, уначы — -8...-6, на працягу сутак — без ападкаў; у Віцебску ўдзень — -11...-9, уначы — -4...-2, на працягу сутак — без ападкаў; у Гомелі ўдзень — -13...-11, сонечна, уначы — -13...-11, без ападкаў; у Магілёве ўдзень — -12...-10, уначы — -8...-6, на працягу сутак — без ападкаў.

www.meteo.by



ГУЧНАЯ СПРАВА

## Галіне Жураўковай свеціць ад 5 да 12 гадоў турмы

Учора, 19 лютага, следчыя Камітэта дзяржаўнай бяспекі прад'явілі абвінавачанне экс-кіраўніку справамі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Галіне Жураўковай

Як паведамляе начальнік Цэнтра інфармацыі і грамадскіх сувязяў КДБ **Аляксандр БАЗАНАЎ,** Г.Жураўковай прад'яўлена абвінавачанне за ўчыненне злачынства, прадугледжанага часткай 4 артыкула 210 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь — "Крадзеж шляхам злоўжывання службовым становішчам, учынены арганізаванай групай або ў асабліва буйным памеры".

Калі ў судзе будзе даказана віна Жураўковай менавіта па гэтым артыкуле Крымінальнага кодэкса, то яна можа атрымаць ад 5 да 12 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці.

Нагадаем, што Г.Жураўкова была затрымана 10 лютага і зараз знаходзіцца пад вартай у следчым ізалятары КДБ. Яна была адхілена ад пасады кіраўніка справамі прэзідэнта Указам Лукашэнкі 10 лютага. І гэта было зроблена, як паведамляе прэзідэнцкая прэс-служба, у мэтах "забеспячэння неабходных умоў для аб'ектыўнага і ўсебаковага расследавання вышэйназваных крымінальных спраў".

Ноччу 11 лютага на кватэры Жураўковай быў праведзены вобыск, пасля чаго яна была змешчана ў следчы ізалятар КДБ.

Некаторыя крыніцы сцвярджаюць, што пад арыштам знаходзіцца таксама сын і муж Г.Жураўковай.

**Наталля ГАК.**

ПУЛЬС

## Пайшоў служыць і... не вярнуўся

*У мінулым годзе 47 юнакоў загінулі падчас службы ў беларускім войску*

Скончылі жыццё самагубствам 11 вайскоўцаў: 10 — вайскоўцаў Узброеных сіл і 1 — пагранічных войскаў. Такія звесткі агучыў падчас пашыранага пасяджэння калегіі Беларускай ваеннай пракуратуры (БВП) беларускі ваенны пракурор генерал-маёр юстыцыі **Вячаслаў Любавіцкі.** У 2002 годзе добраахвотна пакінулі жыццё 27 чалавек.

Усяго ў беларускай арміі і іншых вайсковых фарміраваннях краіны ў 2003 годзе з розных прычынаў загінулі 47 вайскоўцаў. У 2002 годзе такіх было 62 чалавекі. Найбольш неспрыяльная абстаноўка ў гэтым плане, паводле слоў беларускага ваеннага пракурора, склалася ў ВПС і войскаў СПА Узброеных сіл.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## Пытанні аптымізацыі перавозак беларускіх знешнегандлёвых грузаў праз Клайпедскі порт будуць абмяркоўвацца ў Мінску

20 лютага ў Міністэрстве транспарту і камунікацый Беларусі адбудзецца другое пасяджэнне беларуска-літоўскай рабочай групы па разглядзе пытанняў аптымізацыі перавозкі і паравалкі беларускіх знешнегандлёвых грузаў праз Клайпедскі порт. Беларускі бок узначаліць намеснік міністра транспарту і камунікацый Уладзімір Уласень, літоўскі бок — Арвідас Вайткус, сакратар Міністэрства транспарту і камунікацый Літоўскай Рэспублікі.

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе Мінтранса, падчас абмеркавання плануецца разгледзець пытанні аб далейшай аптымізацыі перавозак беларускіх грузаў праз Клайпедскі порт і зніжэнні транспартных затрат пры перавозцы беларускіх калійных угнаенняў па тэрыторыі Літвы. Акрамя таго, бакі абмяркуюць магчымасці фарміравання прамых грузавых цягнікоў (вагай да 4 тысяч тон) з экспартнымі беларускімі грузамі прызначэннем у Клайпедскі порт і заключэння доўгатэрміновых дагавораў паміж стывідорнымі кампаніямі Клайпедскага порта і беларускімі грузаўладальнікамі. Плануецца таксама прапрацаваць магчымасць арганізацыі курсіравання кантэйнернага цягніка па маршруце Калінінград/Клайпеда — Мінск/Масква.

**Аляксей АРЭШКА.**

## Курсы замежных валют

*На 20 лютага Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў наступныя афіцыйныя курсы замежных валют:*

1 долар ЗША — 2152.00 рублі
1 еўра — 2734.65
1 расійскі рубель — 75.52
1 аўстралійскі долар — 1700.40
1 балгарскі леў — 1399.31
1 дацкая крона — 366.94
1 СДР — 3252.75
1 ісландская крона — 31.60
10 японскіх іен — 201.19
1 казахскі тэнге — 15.49
1 канадскі долар — 1625.13
1 кувейцкі дынар — 7302.09
1 кыргызскі сом — 49.55
1 латвійскі лат — 4075.37
1 літоўскі літ — 791.74
1 малдаўскі лей — 171.61
1 нарвежская крона — 311.18
1 польскі злоты — 559.07
1 сінгапурскі долар — 1278.06
10.000 турэцкіх лір — 16.21
1 украінская грыўна — 403.41
1 англійскі фунт стэрлінгаў — 4070.40
1 чэшская крона — 83.46
1 шведская крона — 298.26
1 швейцарскі франк — 1735.55
1 эстонская крона — 174.75

**БелаПАН.**

ТЕМА ДНЯ

# Газовое противостояние

*Оно достигло в последние дни критической черты. Позавчера и вчера российские СМИ сообщали о нарастании конфликта. Вначале о том, что "Газпром" собирается перекрыть поток голубого топлива в Беларусь, затем, что это уже сделано и наконец о прекращении прокачки газа через Беларусь на Запад. Конфликт таким образом выходит на европейский уровень.*

"Газпром" так объясняет свое решение: *"Были введены ограничения поставок российского газа потребителям Республики Беларусь. Ограничения были введены на основании обращения независимого поставщика — компании ЗАО "Транс Нафта", в связи с тем, что законтрактованные ОАО "Белтрансгаз" объемы газа полностью выбраны. Для возобновления поставок в полном объеме белорусской стороне было рекомендовано срочно подписать новые контракты. Однако вместо этого "Белтрансгаз" начал несанкционированный отбор российского газа, поставляемого транзитом по территории республики в третьи страны. В связи с этим "Газпром" был вынужден полностью прекратить поставки российского газа в Беларусь, а также его транзит по территории республики. Ответственность за нарушения договорных обязательств ОАО "Газпром" перед иностранными потребителями российского газа полностью ложится на белорусскую сторону".*

Надо заметить, что такая же ответственность лежит и на "Газпроме", который занял довольно жесткую позицию на переговорах с нашим "Белтрансгазом", буквально мертвой хваткой уцепившись в это предприятие. В результате его действий может остаться без газа Калининградская область России, недополучит его Польша, Германия...

Большая часть нашего населения долго ничего не знала об этом, поскольку государственные СМИ всю среду ни словом не упоминали о прекращении поставок газа. А в новостях главным событием дня назывался стартовавший под Минском чемпионат Европы по биатлону. Правда, не было и никаких отключений тепла и света. Очевидно, причина в том, что невозможно было получить какую либо информацию из белорусских структур, что свидетельствовало о растерянности в них.

Только вчера появились комментарии ответственных лиц. Из Совмина пришло сообщение, что *в сложившейся ситуации правительство вынуждено ввести в стране режим жесточайшей экономии энергоресурсов и оно расценивает шаги "Газпрома" как откровенный шантаж и беспрецедентную форму давления. В то же время, как заявил премьер-министр Сергей Сидорский, проблемы с поставками газа не затронут жителей Беларуси.*

Стала известна и реакция Александра Лукашенко. Агентство "Интерфакс-Запад" сообщает, что Александр Лукашенко заявил о готовности Беларуси купить российский газ "на условиях Путина". "Хочет Путин, чтобы мы платили эти деньги, то давайте соберем их (деньги) от лекарств чернобыльцев, от тех, кто гнил в окопах, — заявил он в четверг на совещании с правительством. — Неужели мы не соберем эти 200 млн. долларов? Соберем и снимем эту проблему, и нами перестанут манипулировать и шантажировать". По его словам, "сейчас стало модно бороться с терроризмом". "Это акт терроризма на самом высоком уровне, когда в 20-градусный мороз страну и народ — не чужой народ, у половины которого в жилах течет русская кровь, лишают природного газа", — цитирует "Интерфакс-Запад" белорусского президента.

Как видим, заявление довольно эмоциональное. Как, впрочем, и отзыв посла из России для консультаций. Но из слов А.Лукашенко видно, что Россия вынудила принять ее условия. Кстати, российская "Независимая газета" видит капитуляцию Минска и в другом: в том, что Беларусь согласилась взять российский кредит в сумме 200 миллионов долларов. В связи с этим она пишет: "России этот кредит дает рычаги давления на руководство Беларуси. Возврат кредита будет производиться с 2006 года — года президентских выборов в Беларуси. И Москва сможет с помощью "долгового рычага" существенно влиять на действия белорусских властей. По мнению заведующего отделом Беларуси Института стран СНГ Александра Фадеева, кредит может быть и залогом послушности и будущего правительства, если в Беларуси все-таки произойдет смена власти. "Новое правительство придет тогда, когда руководящая верхушка республики будет связана этим кредитом, другими долгосрочными соглашениями с РФ", — сказал эксперт корреспонденту "НГ".

Но, думается, кредит лучше, чем отдавать такое стратегическое предприятие, как "Белтрансгаз". К тому же потери можно компенсировать за счет российского транзита через территорию Беларуси, обслуживания ее определенных структур, то есть за счет прекращения "благотворительности" по отношению к России.

Газовое противостояние показало непрочность дружбы с Россией. Она после первого серьезного испытания всего лишь газовой трубой дала серьезную трещину. Это также показало правоту оппозиции, эксперты которой давно убеждают власть в том, что нельзя стопроцентно привязывать свою экономику к одной чьей-то трубе. Эта привязка и явилась "ахиллесовой пятой" Лукашенко. Используя эту "пяту", Россия сможет еще долго оказывать давление на нашу страну.

**Сергей ИВАНОВ.**

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА

## «Газпром» толкает Беларусь в эпицентр международного скандала

В тихо тлевшем последние недели газовом скандале Россия нанесла мощный удар. С 17:00 18 февраля по белорусскому времени "Газпром" прекратил поставки газа в Беларусь и его транзит по территории страны.

В сообщении "Газпрома" подчеркивается, что *"ответственность за нарушение договорных обязательств ОАО "Газпром" перед иностранными потребителями российского газа полностью ложится на белорусскую сторону"*. В свою очередь "Белтрансгаз", как передает ИТАР-ТАСС, уведомил "Газпром", что белорусская сторона *"не несет ответственности за транзит российского газа через территорию Беларуси"*. По мнению генерального директора компании "Транс Нафта", которая последней поставляла газ в Беларусь, *"это очень опасный шаг белорусской стороны. В результате может прекратиться не только подача тепла в жилые дома, но и возникнуть проблемы на предприятиях непрерывного цикла, для которых необходима постоянная подача газа"*.

Однако источники в белорусском правительстве заявили "Интерфаксу", что *"отключения газа в жилых домах в Беларуси не будет". "Совет министров убежден в том, что все проблемы, связанные с поставками газа в Беларусь, будут урегулированы в ближайшее время",* — подчеркнул представитель правительства.

По мнению эксперта Независимого института социально-экономических и политических исследований **Валерия Дашкевича,** *"можно предположить, что этот новый газовый удар со стороны России был хорошо подготовлен, так как полностью прекратить подачу газа очень сложно технически"*. Во-первых, необходимо было сократить добычу газа непосредственно на скважинах, во-вторых, подготовить трубопроводы к снижению давления до нуля и, в-третьих, принять заблаговременные меры по обеспечению газом западных пользователей — через Беларусь газом обеспечивается Литва, часть Польши, Калининградская область, Германия (по словам пресс-секретаря "Газпрома" Сергея Куприянова, потребителям Литвы и Польши газ сейчас доставляется через Украину).

К тому же не совсем понятна ситуация с транзитом газа, ведь фактически по территории Беларуси проходят две трубы: так называемая "старая", которая принадлежит "Белтрансгазу", и газопровод "Ямал — Европа", принадлежащий "Газпрому", но контролируемый "Белтрансгазом". Осуществлять несанкционированный забор газа белорусская сторона может из обеих труб, и чтобы не допустить этого, перекрывать надо обе, что моментально скажется на потребителях газа в Западной Европе.

В "Газпроме" такую ситуацию, судя по всему, предвидели, так как еще днем российский газовый концерн выступил с предупреждением, что неблагоразумное поведение белорусской стороны может привести к крупному международному скандалу. *"Если Беларусь начнет производить отбор газа, следующего транзитом в Польшу и Германию, это обернется колоссальным скандалом международного масштаба с непредсказуемыми для Беларуси последствиями",* — заявил пресс-секретарь "Газпрома".

По мнению Валерия Дашкевича, несмотря на то, что "Газпром" явно не заинтересован в долгом простое газопроводов, компания настроена очень решительно. *"Получается, что Беларусь полтора года водила "Газпром" за нос, получала дешевый газ под одни только обещания, а потом, выражаясь нелитературным языком, их кинула,* — говорит эксперт. — *В такой ситуации российская сторона вполне способна развязать международный скандал. Тем более что страдающий от нехватки газа из-за Беларуси Запад вполне поймет Россию, если та решит сильнее и откровеннее надавить на руководство нашей страны. В такой ситуации страны Запада не станут выдвигать России какие-либо претензии в неправомочности ее действий"*.

Нехватка российского природного газа, по мнению Валерия Дашкевича, способна самым негативным образом сказаться на двух третях белорусских предприятий. В связи с этим окончательное решение должно быть принято не то что в ближайшие дни, а в ближайшие часы. Однако это должно быть политическое решение, на что российская сторона устами премьер-министра Михаила Касьянова открыто намекала еще на прошлой неделе, после заседания союзного Совмина, на котором не удалось договориться ни по единому рублю, ни по газу.

Как считает Валерий Дашкевич, в белорусском руководстве много здравомыслящих людей, *"но не они принимают решения". "Хватит ли мудрости у Александра Лукашенко признать неверность своих решений и отступить?* — говорит эксперт. — *Ведь белорусский лидер наверняка понимает, что для России газовый вопрос не самый главный в сфере сотрудничества с Беларусью и играет скорее роль инструмента для достижения более значимых целей — к примеру, введению российского рубля на территории нашей страны"*.

Беларуси уже в ближайшие дни, возможно, придется задействовать подземные хранилища газа — Осиповичское и Прибугское. По данным одного из источников, подземные хранилища газа вмещают в себя около 680 млн. кубометров газа. Потребности же Беларуси в газе зимой составляют до 100 млн. кубометров в день.

**Александр ЗАЙЦЕВ.**
*("Белорусские новости".)*

## Россия возобновила поставки газа в Беларусь

Российская компания "Транс Нафта" и белорусская "Белтрансгаз" подписали соглашение о временном возобновлении поставок российского газа в Беларусь.

Как рассказал ИТАР-ТАСС генеральный директор "Транс Нафты" Владимир Кондрачук, контракт подписан на 640 миллионов кубометров газа по прежней цене — 46,68 доллара за тысячу кубометров. "Этого количества топлива Беларуси должно хватить до конца месяца", — отметил он.

Подача газа возобновилась около 15.00 по московскому времени в четверг.

"К сожалению, это опять полумеры, которые не позволяют решить ситуацию в целом. Договор на транзит белорусская сторона так и не подписала", — отметили "Интерфаксу" в "Газпроме".

БІЯТЛОН: ЧЭМПІЯНАТ ЕЎРОПЫ

## Зубрылава зноў на п'едэстале,

*А вось мужчыны засталіся без узнагарод...*

У Раўбічах працягваецца IX чэмпіянат кантынента па біятлоне. Нагадаем, што ў першы дзень спаборніцтваў у скарбонцы беларускіх спартсменаў тры медалі. Залатыя ўзнагароды выйгралі Аляксандр Сыман і Алена Зубрылава, а Уладзімір Драчоў заваяваў бронзу.

Праграма другога дня спаборніцтваў складалася з гонак праследавання як у мужчын, так і ў дзяўчат.

Менавіта жанчыны з нашай каманды папоўнілі медальную скарбонку беларускай зборнай.

**Кацярына Іванова** заняла другое месца, а **Алена Зубрылава** стала бронзавай прызёркай у гонцы праследавання. Яшчэ дзве нашы суайчынніцы фінішавалі наступным чынам: Вольга Назарава — на 8-м месцы, а Людміла Ананька — на 14-м. Перамогу ў жаночай гонцы праследавання адсвяткавала ўкраінка Алена Пятрова.

А вось мужчыны засталіся без медалёў у гонцы праследавання на 12,5 кіламетра. Аляксандр Сыман, які напярэдадні заваяваў золата, фінішаваў толькі восьмым, дапусціўшы аж шэсць промахаў. Бронзавы прызёр той самай гонкі Уладзімір Драчоў заняў дзевятае месца з пяццю недакладнымі стрэламі. Наш Алег Рыжанкоў фінішаваў шостым. У яго пасіве — тры "незакрытыя" мішэні. Аляксей Айдараў прыйшоў да фінішу 29-м, прайграўшы пераможцу больш за шэсць хвілін.

А залатую ўзнагароду заваяваў паляк Томаш Сікора, які страляў бездакорна. На другім месцы нарвежац Аляксандр Ос, які саступіў лідэру крыху больш за дзве хвіліны, а на трэцім радку расіянін Яўген Трыбушэнка. Яго адставанне ад другога месца склала 12,6 секунды.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**
**Фота ByMedia.net**

21 ЛЮТАГА — МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ РОДНАЙ МОВЫ

# Свята кожнага дня

Заўтра — свята матчынай мовы. Гэта свята кожнага народа, кожнага чалавека, якому дарагі ягоны нацыянальны скарб.

У скарбонку гэтага свята можна залічыць шэраг культурна-асветніцкіх імпрэз, што адбываліся ў лютым. Згадаем адну з іх — пасмяротную выставу мастака Яўгена Куліка, які спавядаў роднае слова, пранёс яго праз усё сваё жыццё, сваю творчасць. Яно і ў шматлікіх графічных палотнах, прысвечаных гісторыі Беларусі, яе матэрыяльнай спадчыне, і ў кніжнай графіцы мастака. Няцяжка ўявіць сабе, як любіў і шанаваў роднае слова гэты творца, калі звярнуць увагу на аздабленне "Камарыка — насатага тварыка" Максіма Багдановіча, "Песні пра зубра" Міколы Гусоўскага ці падручніка роднай мовы для школьнікаў.

Згадаем нядаўні вечар яркага, таленавітага паэта Эдуарда Акуліна з удзелам зуброў нашага прыгожага пісьменства — Вольгі Іпатавай, Ніла Гілевіча, Анатоля Вярцінскага, Уладзіміра Арлова — у зале Дома літаратара, якая, можна сказаць, трашчала ад наплыву маладых аматараў паэзіі...

У рэчышчы Міжнароднага дня роднай мовы — вечарына-прэзентацыя зборніка вершаў паэта з Маладзечна, былога настаўніка гісторыі Лявона Цімохіна "Срэбны коннік", якая адбылася ў памяшканні абласнога драматычнага тэатра.

Маладзечаншчына — мясціна, намоленая беларушчынай, гаворкі якой складаюць аснову сучаснай літаратурнай беларускай мовы. Тут жылі і стваралі гэтую адметную для Беларусі аўру такія адданыя роднай мове палітыкі, дзеячы навукі і культуры, як Генадзь Карпенка, адзін з заснавальнікаў і стваральнікаў краязнаўчага музея Генадзь Каханоўскі, гісторык і пісьменнік Мікола Ермаловіч, які пакінуў нашчадкам, акрамя кніг па гісторыі Беларусі, свае вершы і прозу ў форме гутарак. На гэтай святой зямлі пэўны час жыў і тварыў наш незабыўны Максім Багдановіч.

У сталіцу беларускага слова — так часам называюць Маладзечна — на вечарыну Лявона Цімохіна прыехалі знаныя паэты Анатоль Вярцінскі, Генадзь Бураўкін, Сяргей Законнікаў, пісьменнік Васіль Гроднікаў, праваабаронца Таццяна Процька, мастак Аляксей Марачкін, гісторык і палітык Аляксей Кароль. Шырока была прадстаўлена мясцовая інтэлігенцыя. Натуральна — інакш і не магло быць — ва ўтульнай зале тэатра цягам чатырох гадзін, што незаўважна прамільгнулі, панавала роднае слова. Яно гучала з вуснаў людзей розных нацыянальнасцяў, розных поглядаў на жыццё, розных прафесіяў. Гучала ў прамовах і вершах, у музыцы і песні.

Прывітаць і павіншаваць свайго настаўніка прыйшлі — нават прыехалі з далёкай Расіі і Германіі — былыя вучні, удзячныя Лявону Аляксандравічу за тую любоў да роднага слова, якую ён прышчапіў ім у школьныя гады, адкрыў для іх Беларусь. І не толькі на ўроках гісторыі, якую ён выкладаў па-беларуску ў школе з рускай мовай навучання, але і як кіраўнік літаратурнага аб'яднання маладых талентаў "Праменьчык", дзе запаліў у дзіцячых сэрцах іскрынку творчасці.

Гэтыя "праменьчыкі" — родныя брат і сястра Зміцер і Ларыса Вашынкі, Юрась Казлоўскі, Вольга Яубоўская, Вольга Кандраценка і іншыя прамаўлялі, чыталі не толькі вершы настаўніка, але і свае таксама. А як натуральна, нязмушана лілося, разлівалася ў зале роднае слова з вуснаў кардыёлага Ванды Анцілеўскай, хірурга Чэслава Лешчыка, загадчыцы аддзела культуры гарвыканкама Надзеі Сідарэнка, аднадумцаў і сяброў паэта. Паэтычнае слова Лявона Цімохіна перагуквалася з вершамі паэтаў-мінчукоў.

Праз усю вечарыну, вядучымі якой былі карэнны маладзечанец Аляксей Кароль і Эдуард Баланчук, памяць прысутных вярталася да тых, хто паклаў сваё жыццё на алтар беларушчыны. Сярод іншых у гэтым спісе — імёны Васіля Быкава і Генадзя Карпенкі, які, як вядома, падчас сваёй працы на пасадзе кіраўніка горада заклаў падмурак штогадовага фестывалю беларускай песні. Паэты чыталі вершы, прысвечаныя Васілю Быкаву, якому ў чэрвені гэтага года споўнілася б 80. Любоў да роднага слова і памяць пра людзей, якія яго спавядалі, спалучаліся арганічна.

Незабыўныя ўражанні і ад музычнай старонкі гэтага свята роднай мовы. У выкананні піяніста-віртуоза Сяргея Кудрына, прымы-скрыпкі сімфанічнага аркестра горада Аляксандра Баравіка гучалі класічныя творы Баха, Моцарта, Бетховена, Шапэна, Агінскага. Беларускія песні спявалі студэнты музычнага вучылішча, якое маладзечанцы справядліва называюць сваёй кансерваторыяй. Авацыяй сустракала зала Андрэя Саўчанку, які бліскуча выканаў "Шумныя бярозы".

Не магу прамінуць, што Лявон Цімохін — актыўны сябра ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны", якое за сваю працу і любасць да беларускай мовы трапіла сёлета ў няміласць да ўладных структур. Але з намі Бог і праўда. Ён чуе Малітву за беларускую мову, аўтар якой — былая 9-класніца мінскай школы Маша Заяц.

Лявон Цімохін, грамадскі дзеяч на Маладзечаншчыне, педагог і паэт, — падараваў у той цудоўны зімовы дзень землякам і гасцям цудоўнае свята роднай мовы. Дык няхай яно чыстымі ручайкамі разліецца па ўсёй Беларусі і стане святам кожнага дня. Хай у суквецці моў будуць розныя кветкі, а не адна. Хай гучыць наша роднае слова, насуперак высілкам тых пярэваратняў, якія хочуць знішчыць, растаптаць душу беларускага народа. І хочацца верыць, што мы, дзеці сваёй зямлі, не аддадзім на згубу роднае слова, што яно будзе квітнець у сэрцах і на вуснах грамадзян Беларусі.

**Ірына ЛЯКСЕЕВА.**

Народная Воля
20 ЛЮТАГА 2004 г.

АСОБА

*Ларыса ГРЫБАЛЁВА:*

# «З жонкай Алеся Круглякова мы выбралі аднолькавыя вясельныя сукенкі...»

*Хто сказаў, што нараджэнне дзіцяці можа замінаць кар'еры і творчасці? Вядомая спявачка і тэлевядучая Ларыса Грыбалёва так не лічыць: работу над сваім сольным альбомам пачала амаль адразу пасля выхаду з радзільнага дома.*
*"Альбом ствараўся для таго, каб мая дачушка магла мной ганарыцца", — гаворыць Ларыса.*

**— Ларыса, Вы вельмі многа працуеце: і над новым альбомам, і на тэлебачанні. Не цяжка яшчэ і даглядаць маленькае дзіця? Вам хто-небудзь дапамагае?**

— Канешне цяжка. Дапамагаюць мне ўсе, у мяне ёсць і нянечка, і муж, якому не трэба бываць на працы з васьмі раніцы да васьмі вечара. Вось і мяняемся. А што да бацькоў, то мае ў Віцебску жывуць і працуюць, Сашыны таксама яшчэ працуюць, таму толькі на выхадныя мы можам ім "падкідваць" унучку.

**— А як з уставаннем па начах?**

— Гэта, напэўна, самае складанае. Здараецца, так "наўстаешся", што нават не памятаеш, колькі разоў за ноч прасыналася. А што рабіць? Без гэтага нельга...

**— Не страшна было вось так, у самы разгар кар'еры ўсё кінуць і нарадзіць дзіця?**

— Я заўсёды хацела дзіця. Я лічу, што гэта ніякім чынам не адбіваецца на кар'еры. Мне нараджэнне дачкі нават дапамагло "пасталець", мяне сталі ўспрымаць больш сур'ёзна. Набыўшы аднойчы імідж "травесці", вельмі складана было ад яго адысці, а дачушка дапамагла мне вырасці ў вачах гледачоў. Цяпер можна нарэшце сказаць, што Ларыса Грыбалёва ўжо пасталела.

**— Якім чынам Вы выбралі імя для дачушкі?**

— Перад яе нараджэннем мы з мужам састаўлялі спісы жаночых імён, і імя Аліса супала. На ім і сышліся, тым больш што Аліса — гэта *АЛ*яксандр *І* Ларыс*А*. А па Святках яна павінна была стаць Уллянай, але гэтае імя вельмі не спадабалася маёй маці. Аднак пахрысцілі мы яе ўсё ж такі Уллянай.

**— Каб паспець на эфір, Вы павінны рана выязджаць з дому. Як да гэтага ставіцца Ваш муж?**

— Ён спіць у гэты час. *(Смяецца.)* На самай справе раней гэта было для яго самым страшным перыядам, таму што Аліса магла прачнуцца. Тады ў яго таксама пачыналася такая "рабочая змена". Зараз дачка крыху падрасла, і яны разам спяць, пакуль я не прыйду з працы.

**— А чым займаецца Ваш муж?**

— Ён прафесійны фатограф. Працаваў на "8-м канале", на "БТ", "АНТ" аператарам. Зараз — вольны мастак, заняўся бізнесам. Таму што ў сям'і вытрымаць дзвюх творчых асоб вельмі складана, камусьці патрэбна і грошы зарабляць...

**— Як Вы з ім пазнаёміліся?**

— Мы пазнаёміліся ў 1995 годзе, калі я яшчэ жыла ў інтэрнаце. У мяне былі сябры-футбалісты. Мы разам прыдумалі свята — Дзень футбаліста, якое адзначалі 1 снежня. Саша быў запрошаны імі, каб зняць усё на відэакамеру. Так і пазнаёміліся... Спачатку я яго ўспрымала як сяброўку. У мяне быў зусім іншы малады чалавек, і я дзялілася з Сашам сваімі любоўнымі перажываннямі. Нават за сваю сястру яго, такога станоўчага і добрага, сватала... А сустракацца мы пачалі праз паўгода пасля знаёмства, летам.

**— Вы скончылі педагагічны інстытут, дэбюціравалі ў конкурсе маладых выканаўцаў у Маладзечне, а сталі тэлевядучай. Чаму?**

— Так склалася. Зараз я з жахам успамінаю, што магла пайсці працаваць у школу і кожны дзень да васьмі гадзін хадзіць на работу, а потым вечарам правяраць сшыткі... Не ведаю, якім чынам я атрымала гэтую прафесію, на што спадзявалася... Але ж абставіны склаліся вельмі добра, і я перамагла ў конкурсе маладых выканаўцаў, прыехала ў Мінск. На конкурсе пазнаёмілася з Ягорам Хрусталёвым, які запрасіў мяне на кастынг вядучых.

**— А як Вы трапілі ў Маскву?**

— Праграму "Усё нармальна, мама!" прадалі на расійскі тэлеканал, яна там ішла ў начным эфіры. Пасля гэтага мяне запрасілі паўдзельнічаць у кастынгу на "Ранішнюю пошту".

Я праходзіла кастынг самая першая. Адразу з ранішняга цягніка, прыйшла, у чым была. На мяне пасыпалася столькі прэтэнзій: "Чаму вы ў штанах? Да нас прыходзяць з сумкамі адзення!" На гэта я адказала: "Я працую на тэлебачанні ўжо шмат год і ведаю, што ногі можна зрабіць, якія хочаш. Вам патрэбны прафесійны вядучы або нехта іншы?" Размова атрымалася даволі рэзкай, і я палічыла, што мяне ніколі не выберуць. А атрымалася, што выбралі менавіта мяне...

**— Не цяжка было працаваць у Расіі? Вядома, што там з пагардай ставяцца да беларусаў.**

— Прыходзілася заваёўваць сабе месца пад сонцам. Хаця, што цікава, большая частка людзей, якія там працуюць, — украінцы, беларусы. Масквічоў там мала, і яны займаюць усё больш кіруючыя пасады. Там вельмі вялікая канкурэнцыя, кожны імкнецца падседзець кагосьці, "накапаць" на яго. Таму адзначаць што-небудзь творчым калектывам не прынята.

Я ж заўсёды прыязджала з добрым настроем, выцягвала ўсіх то ў рэстаран перад сваім цягніком, то на святкаванне чагосьці Дня нараджэння. Усім было весела, і мяне заўсёды запрашалі прыязджаць часцей.

**— Гавораць, што і на БТ не вельмі добрая атмасфера ў калектыве. Гэта праўда?**

— Я пазаштатны супрацоўнік, таму за ўсё тэлебачанне адказаць не магу. У нас жа, у "Добрай раніцы, Беларусь!", вельмі дружны калектыў. Яны нават з радзільнага дома мяне сустракалі!





**— Вы мала спіце, прачынаецеся ў пяць гадзін раніцы. Скажыце, як атрымліваецца не заснуць падчас эфіру?**

— Раней мы сядзелі на мяккіх канапах, дзе сапраўды можна было заснуць. Зараз мы працуем альбо стоячы, альбо сядзім на такіх жорсткіх крэслах, па якіх заснуць немагчыма. Акрамя таго, змяніўся сам эфір, ён стаў больш дынамічным. Таму я прасынаюся менавіта падчас эфіру.

**— Што Вы робіце дзеля таго, каб быць заўсёды ў добрым настроі?**

— Прафесія і настрой павінны ісці паралельна, таму забываеш на пэўны час, што табе нешта не падабаецца. Гэта проста праца. Хаця, мне здаецца, на экране заўсёды бачна, калі ў мяне дрэнны настрой...

**— Ходзіць многа чутак пра Ваш раман з тэлевядучым Алесем Кругляковым...**

— Ой! Мне прыпісвалі і Максімкава, і Кухто! Пра мяне наогул заўсёды шмат плётак хадзіла. Яшчэ ў ВНУ кожны год гаварылі, што я цяжарная. Таму што ўвяла ў моду вельмі шырокія сарафаны на лямках...

А размовы пра раман з Кругляковым больш адбіліся на ім, чым на мне. Гэта яго ўвесь час запытваюць, а я ўжо прызвычаілася... Магу нават расказаць адзін цікавы выпадак. Вяселлі ў нас з Кругляковым былі з розніцай у тыдзень. Мы з яго будучай жонкай у вясельным салоне выбралі адну і тую ж сукенку... І зараз, калі ў нас узнікаюць нейкія спрэчкі, ён заўсёды мне гаворыць: "Не выпадкова, што вы з маёй жонкай выбралі адну і тую ж сукенку!" *(Па сакрэце магу сказаць, што зараз Алесь Круглякоў ізноў халасцякуе.)* А так у нас нармальныя сяброўскія адносіны. Ён вельмі добры чалавек.

**— А муж не раўнуе да яго?**

— Ён мяне раўнуе, але не паказвае гэтага. Такое адчуванне, што яму наогул усё роўна. Мяне нават як жанчыну часам гэта закранае *(смяецца)*. Проста мы пазнаёміліся, калі я была ўжо дастаткова вядомай. Ён у мяне вельмі разумны і ведае, што гэта ўсё адмоўныя бакі маёй прафесіі, і без іх не абыдзешся. Я лічу, што неразумна з яго боку было б ставіць перада мной пытанне: "Альбо работа, альбо я".

**— А калі б прыйшлося выбіраць, што для Вас больш важнае?**

— Для мяне важней сям'я. Але я буду зусім іншым чалавекам і буду нецікавая той жа сям'і, калі пачну сядзець дома.

**Марыя РУСАКОВІЧ.**

**P.S.** ***Сёння, 20 лютага, у клубе-рэстаране "Гудвін" адбудзецца прэзентацыя новага сольнага альбома Ларысы Грыбалёвай пад назвай "Што-небудзь".***



# Крыжаванка

**Па гарызанталі:** 1.Абласны горад краіны. 5.Белае, вельмі салодкае крышталічнае рэчыва. 9.Задыякальнае сузор'е. 10.Тоўчаная аўсяная мука. 11.Фізік, які даследуе гукі. 12.Вузкая шчыліна ў чым-небудзь. 14.Абутак для аўтамабільнага кола. 17.Каралавы востраў у форме кальца. 18.Прыроднае рэчыва. 19.Горад у Індыі. 22.Радыеактыўны хімічны элемент. 24.Банкруцтва, разарэнне. 25.Музычны твор. 26.Тонкая карункавая тканіна. 29.У рымскай міфалогіі Бог кахання. 32.Жыхар Палесся. 33.Вышэйшы орган дзяржаўнай улады. 34.Сын дачкі або сына. 36.Тое, што і гарачка. 39.Рэжучы інструмент. 40.Заступнік на судзе. 41.Адценне голасу. 42.Сумка, торба. 43.Вусны абмен думкамі.

**Па вертыкалі:** 1.Булачны выраб. 2.Геаметрычнае цела. 3.Від спорту. 4.Расліна сямейства парасонавых. 5.Адзінка мовы. 6.Дробнае ламачча. 7.Апарат для размнажэння чарцяжоў. 8.Рускі пісьменнік (раман "Голыя каралі"). 13.Час яды. 15.Фарба чырвонага колеру. 16.Прыстасаванне для спуску з самалёта. 20.Скураная пятля ў хамуце. 21.Зямельная мера ў Англіі. 22.Рака, левы прыток Нёмана. 23.Мясная страва. 26.Плуг з двума адваламі. 27.Валавы збор прадукцыі раслінаводства. 28.Травяністая расліна сямейства губакветных. 30.Чыстка і лакіроўка пазногцяў на руках. 31.Прылада для гульні ў тэніс, бадмінтон. 35.Вегетатыўны орган вышэйшых раслін. 36.Збожжавая культура. 37.Разрад, ступень у вайсковых званнях. 38.Бацька мужа ў адносінах да жончыных бацькоў.

**Склаў Уладзімір ЭСМАНТОВІЧ.**

## Адказы на крыжаванку, надрукаваную ў №26

**Па гарызанталі:** 3.Кумаванне. 10."Палац". 11.Валун. 12.Калядачкі. 14.Гілевіч. 15.Агіевіч. 16.Ромэр. 17.Каханак. 21.Лабанаў. 24.Радзіма. 25."Кросны". 26."Верасы". 27.Кмен. 30.Па. 31."Лексіс". 32.Ода. 34.Эдуард. 35.Ляшчына. 38.Чапскі. 39.Паліна. 40.Рыбалка. 41.Крыніца. 45.Данскія. 49.Цётка. 50.Ясінскі. 52.Зімовыя. 53.Ура! 54.Рыбак. 55.Заплата. 56.Гук. 57.Нікіцін. 58.Захад.

**Па вертыкалі:** 1.Касіла. 2.Манета. 4.Урач. 5.Асяроддзе. 6.Азарэвіч. 7.Ніка. 8.Шабета. 9.Дубіна. 12.Кіпа. 13.Ігра. 18."Характары". 19.Нясвіжскі. 20.Крык. 21.Лава. 22.Барадулін. 23.Настаўнік. 28.Мая. 29.Ноч. 30.Пан. 33.Дыялектыка. 35.Ліра. 36.Шыбнёў. 37.Апад. 42.Расказ. 43.Нінэль. 44.Цыкута. 46.Анікін. 47.Слонім. 48."Ідылія". 51.Іра. 52.Зан. 56.ГА.

## Свята нашай мовы

**Зварот ГА «ТБМ імя Ф. Скарыны» да грамадзян Беларусі**

21 лютага ва ўсім свеце адзначаецца Міжнародны дзень роднай мовы. Ён усталяваны па ініцыятыве ЮНЕСКА. Мы святкуем яго таму, што родная мова і стаўленне да яе — гэта паказчык маральнасці чалавека і яго душы.

Родная мова — аснова светаўспрымання: яна — повязь паміж былым, сучаснасцю і будучыняй. Захаванне роднай мовы садзейнічае ўстойліваму развіццю асобы. Са знікненнем любой мовы свет губляе часцінку агульначалавечага багацця і культурнай разнастайнасці. У нашай краіне з роднай мовай склалася трывожная сітуацыя. Пад націскам мэтанакіраванай русіфікацыі яна фактычна адкінута на перыферыю і не займае належнага ёй месца мовы тытульнай нацыі.

У сувязі з Міжнародным святам Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны" вітае ініцыятывы грамадзян краіны, накіраваныя на абарону роднага слова, а таксама моў і культур этнічных супольнасцяў, што жывуць у Беларусі.

Заклікаем усіх, каму мілая матчына мова, ладзіць у гэты дзень выставы, вечарыны, канферэнцыі, алімпіяды, фестывалі, на якіх будзе панаваць родная мова.

**Прынята на пасяджэнні Рады ТБМ 1 лютага 2004 года.**



**20**
**лютага**

**ПЯТНІЦА**
Усх. 7.21 Зах. 17.28
Даўж. дня 10.07
Маладзік у 11.19

Сёлета спаўняецца **60 гадоў** з часу заснавання (1944) Гродзенскага універсітэта імя. Я. Купалы



ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

# Вернутая з забыцця

Яе імя — Францішка Уршуля Радзівіл — не так даўно з'явілася на слыху сучаснікаў. Як мала ведалі мы пра гэтую незвычайную жанчыну — таленавітую пісьменніцу і асветніцу са знакамітага магнацкага роду. І вось... У серыі "Беларускі кнігазбор" толькі што выйшла чарговая кніга, якая, можна сказаць, па-сапраўднаму адкрывае несправядліва забытае імя ў гісторыі шматмоўнай літаратуры Беларусі XVIII стагоддзя.

У свой час Францішка Уршуля (1705—1753), якую называлі "нясвіжскай Сапфо", была вядомая як стваральніца ў рэзідэнцыі князёў Радзівілаў прыдворнага тэатра, што паспяхова спаборнічаў з лепшымі тэатрамі Еўропы і якому не было роўных ва ўсёй Рэчы Паспалітай. Для свайго тэатра нясвіжская асветніца напісала 16 драматычных твораў, за аснову якіх брала вядомыя літаратурныя, фальклорныя і міфалагічныя сюжэты. У літаратурнай спадчыне Францішкі Уршулі захавалася і шмат лірычных і прынагодных вершаў.

Асноўная тэма яе творчасці — жаночая доля, каханне, маральнасць. У сваіх п'есах яна стварыла цэлы шэраг цікавых вобразаў, найперш жаночых. Яе гераіні — то ахвяры мужчынскага вераломства, то адданыя верныя жонкі, то мужныя змагаркі за веру і свабоду.

У кнізе **"Францішка Уршуля Радзівіл. Выбраныя творы"** сабрана лепшае з даволі багатай спадчыны пісьменніцы — вершы і драматычныя творы. На старонках аднатомніка чытач знойдзе таксама трактаты на маральныя тэмы, лісты да блізкіх і знаёмых. У дадатку публікуюцца дзённікавыя нататкі мужа Францішкі Уршулі — вядомага ў свой час дзяржаўнага і грамадскага дзеяча князя Міхала Казіміра Радзівіла Рыбанькі.



Пісала Францішка Уршуля пераважна на польскай мове — літаратурнай мове тагачаснай Беларусі. Асобныя творы былі напісаны па-французску.

Аднатомнік склаў вядомы беларускі драматург, доктар філалогіі Сяргей Кавалёў. Аўтары ўступнага артыкула — Жанна Некрашэвіч-Кароткая і Наталля Русецкая. Яны ж пераклалі і большасць твораў пісьменніцы. Сярод перакладчыкаў таксама — Казімір Камейша, Ала Канапелька, Андрэй Хадановіч, Артур Вольскі, Вацлаў Арэшка, Зміцер Колас, Наталля Гардзіенка, Галіна Жарно і іншыя.

**Ніна КУДРЭЙКА.**

# Масленица, блин...

*До Великого поста осталось несколько дней, до Пасхи — меньше семи недель. Начался самый веселый и разгульный праздник — Масленица. В древности он отмечался в день весеннего солнцестояния и только с приходом православия его дата стала зависеть от срока Великого поста. Масленица для наших предков была к тому же и началом нового года.*

Каждый день Масленицы имеет свое значение. В понедельник встречали масленицу, наряжали куклу-чучело, строили снежные городки. Родственники договаривались, как будут проводить неделю. Во вторник ("заигрыш") начинались игры и потехи, строились снежные крепости, пелись частушки. В среду ("лакомку") зятья приходили к тещам на блины. В "широкий четверг" начиналось основное веселье: возили чучело, колядовали. В пятницу — тещины вечерки, когда зять приглашал тещу на блины, и чем сильнее зазывал зять тещу, тем больше оказывал ей почета. В субботу — золовкины посиделки. Невестки навещали и дарили золовкам подарки. В этот же день сжигали чучело, а пепел развеивали по полям, чтобы весна быстрее пришла и чтобы год был урожайным. В завершающий день Масленицы (Прощеное воскресенье, проводы) веселье заканчивалось: на ледяных горках разводили огонь, стараясь растопить лед. Это день очищения перед постом, все просили друг у друга прощения.

## Где в Минске отпраздновать Масленицу?

22 февраля народные гулянья состоятся в парке им. 50-летия Октября. Если снег не растает, детей ждут снежные городки, крепости и фигуры. Все это в течение дня детворе предстоит штурмовать и уничтожить. Народ будут веселить коробейники, ряженые, скоморохи, с театрализованными и музыкальными номерами выступят коллективы художественной самодеятельности и фольклорные ансамбли.

Минский дворец детей и молодежи (Старовиленский тракт, 41) 22 февраля также приглашает отпраздновать Масленицу. На площадке перед дворцом будут торговать блинами и сладостями. Гостей ждет театрализованное представление с участием артистов, скоморохов и фольклорных коллективов, спортивный и снежный городки, раскрашивание ледяных фигурок, катание на лошадях, рыцарский двор (взятие крепости, рыцарские поединки).

Масленицу будут праздновать также в парках им. Горького и им. Челюскинцев. Хорошее настроение гарантируют ряженые, клоуны, артисты фольклорных коллективов. В финале — обрядовые костры и сжигание чучела Масленицы. Повсюду — торговые ряды с блинами, сладкой выпечкой, чаем.

Тем, кто решил провести масленичный уик-энд за пределами Минска, рекомендуем направиться в пансионат "Нарочанский берег". В программе праздничного тура с 20 по 22 февраля — народное гулянье на свежем воздухе, театрализованное представление "Широкая Масленица", а за дополнительную плату — сауна и шашлыки. Стоимость тура — около 40 у.е.



Любителям белорусской экзотики рекомендуем посетить 22 февраля "Веселую Масленицу в Дудутках". В программе: экскурсия по музею ремесел с дегустацией блюд и напитков белорусской кухни, масленичные гулянья на поляне пикников, фольк-шоу, катание на санях, лошадях, костер и вечерняя дискотека. Стоимость тура — 40 у.е.

Кстати, любопытно, что праздники из советского прошлого — 23 февраля и 8 Марта — совпадают с Великим постом, нарушать который — грех. Впрочем, они и так в последнее время празднуются с грехом пополам.

**Игорь ШЕВЧУК.**
*("Белорусские новости".)*
**Фото ByMedia.net**

## Пятница, 20 февраля

**БТ**

**07.00, 09.00, 08.00, 10.00, 11.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 23.00** Новости.
**07.05, 07.35, 08.10, 08.35** "Доброе утро, Беларусь!".
**07.30, 08.30** "Деловая жизнь".
**08.45, 12.10, 14.05, 16.45, 20.05** "Моя страна".
**09.05** Сериал **"Мисс Марпл".**
**10.10, 20.20 "Самозванцы-3".** Сериал.
**11.05 "Богатые и знаменитые".** Сериал.
**12.25** Детектив **"Ледяное сердце".**
**14.15** "Все нормально, мама!".
**15.10** Сериал **"Студенческая жизнь".**
**15.35** Сериал **"Неугомонный Диди".**
**16.05** "5х5".
**17.10** "Звездный дождь".
**18.05** "Маски-шоу".
**18.25** Остросюжетный фильм **"Бег от смерти".**
**20.00** "Деловая жизнь".
**21.00** "Панорама".
**21.50** Специальный репортаж.
**22.00** Боевик **"Полицейский вне закона".**
**23.35** Комедия **"Крампак".**

**ОНТ**

**07.00, 09.00, 18.00, 20.30, 22.45** Наши новости.
**07.05** "Наше утро".
**09.05** Сериал **"Клон".**
**09.55** "Дом".
**10.40** "Угадай мелодию".
**11.05** Сериал **"Твинисы".**
**15.20** "Город женщин".
**16.05** Сериал **"Берег мечты".**
**16.55** "Большая стирка".
**18.10** "Дом".
**18.55** Поле чудес".
**20.00** Время.
**21.00** Концерт "Армейскому магазину" — 10 лет".
**22.55** Романтический фильм **"Чужой билет".**

**РОССИЯ**

**07.45** Сериал **"Повторение пройденного".**
**08.50** "Короткое замыкание".
**09.50** Вести. Дежурная часть.
**10.00, 16.00, 19.00** Вести.
**10.20, 19.30** Местное время. Вести—Москва.
**10.50** Мусульмане.
**11.00** Вся Россия.
**11.15** Москва-Минск.
**11.30** Колоссальное хозяйство.
**11.50** Сериал **"Вокзал".**
**16.10** Концерт, посвященный 15-летию вывода войск из Афганистана.
**17.05** Выборы-2004.
**18.00** Комната смеха.
**19.50** Спокойной ночи, малыши!
**19.55** "Кривое зеркало".
**22.00** Фильм **"Сестры".**
**23.45** Остросюжетный фильм **"Сеть".**

**ЛАД**

**06.30** Euronews.
**08.00, 14.00, 20.00** Новости.
**08.10** "Мгновение вечности".
**08.30** "Другие танцы".
**08.35, 22.05** Сериал **"Проклятый уютный дом".**
**09.35** "Свет далекой звезды. Лариса Александровская".
**10.05** "Между нами, женщинами".
**10.30, 21.15** Сериал **"Грешная Анхелика".**
**11.15, 13.20** "Обычный необычный день".
**11.50** Сериал **"Детский врач".**
**13.50** "Как прекрасно светит луна". Мультфильм.
**14.10** "Время кино".
**15.05** "Крот-фотограф". Мультфильм.
**15.10** "Учительская".
**15.20** "Эх, анекдот, анекдот".
**15.35** Комедия **"Тёща".**
**16.45** "Москва-Минск".
**16.55** Сериал **"Мемуары Шерлока Холмса".**
**17.50** "Между нами, женщинами".
**18.10** Сериал **"Семья Кордье. судья и следователь".**
**20.15** "Колыбельная".
**20.30** "Дела семейные".

**НТВ**

**09.00, 11.00, 16.00, 18.00** Сегодня.
**09.25** "Их нравы".
**10.15** "Страна советов".
**14.35** "Принцип домино".
**16.30** Сериал **"Она написала убийство".**
**17.35** Протокол.
**18.35** "Свобода слова".
**19.55** Фильм **"Операция "Шаровая молния".**
**22.45** Братья Кличко. Лучшие бои.
**23.35** Эротический фильм **"Интимные сцены".**

**СТВ+RenTV**

**06.15, 18.00** "Минщина. Люди, события, факты".
**06.25 "Пауэр рейнджерс, или Могучие рейнджеры".** Сериал.
**06.50** "Близнецы судьбы". Мультсериал.
**07.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.45** "24 часа".
**07.50, 20.00** "СТВ-спорт".
**08.05, 20.15** "Минск и минчане".
**08.20, 23.05** "Технология".
**08.40** Драма **"Пропавшие деньги".**
**10.20** "Автопанорама".
**10.40** "Театральные истории".
**10.55** "Дикая планета".
**11.30** Док.фильм "Письма о добром и прекрасном".
**12.00** "Час суда".
**13.00** "Диалог со всем миром".
**13.50, 18.30 "Тайный знак".** Сериал.
**14.45 "ОБЖ, или Обаятельный муЖчина".** Сериал.
**15.15** "Рыцари света". Мультсериал.
**15.45** Мультфильмы.
**16.15** "Тема дня".
**16.50** Киноповесть **"Экипаж машины боевой".**
**18.15** "Светская хроника".
**20.25** "Добрый вечер, малыш...".
**20.40** "Автопанорама".
**20.55** Комедия **"Мой папа — герой".**
**23.15** "Реактивный бокс".
**23.40** "Новости СНГ".
**23.55** Триллер **"Ночное племя".**

**8-Й КАНАЛ**

**17.30** "Мультпарад" от "Бюргера".
**17.45 "Насмешка".** Худ.фильм.
**19.15** К-видео "Топ-8".
**19.30 "Батальоны просят огня".** Многосерийный художественный фильм. 4-я серия.
**20.45** "Вечарніца".
**21.00** "Региональный репортаж".
**21.10 "Видок".** Мистический триллер.

**ТВ ЦЕНТР**

**07.45** Газетный дождь.
**07.55 "Страсти по Саломее".** Сериал.
**08.45 "Нож в облаках".** Сериал.
**09.35** Европейские ворота России.
**09.45** Телемагазин.
**10.00, 13.00, 17.00, 18.50, 21.00, 23.00** События.
**10.15** Телеканал "Дата".
**11.05** Караоке стрит.
**11.20** "Версты".
**12.00** Денежный вопрос.
**12.15, 20.00** Петровка, 38.
**12.30** Деловая Москва.
**13.15 "Инспектор Кресс".** Сериал.
**14.30** "Неприрученная Африка".
**15.00** Регионы. прямая речь.
**15.30** Каля-маля.
**16.00 "Тайны Ниро Вульфа".** Сериал.
**17.15** "Приглашает Борис Ноткин".
**18.00 "Разлученные".** Сериал.
**18.55** Пять минут деловой Москвы.
**19.00** Юбилейный концерт Юрия Лозы.
**20.25** Выборы-2004.
**21.40** "Народ хочет знать".
**22.30** Времечко.
**23.20** Мода non-stop.
**23.50** Триллер **"Паук".**

**EUROSPORT**

**09.30** Футбол.
**10.00** Прыжки на лыжах с трамплина.
**11.00** Санный спорт.
**12.00** Футбол.
**13.00** Теннис.
**14.30** Прыжки на лыжах с трамплина.
**16.00** Футбол.
**16.30** Бобслей.
**17.30** Футбол.
**18.00** Бобслей.
**19.00** Прыжки на лыжах с трамплина.
**20.30** Легкая атлетика.
**22.30** Самый сильный человек.
**23.30** Скиеркросс.
**00.00** Экстремальные виды спорта.
**00.45** Прыжки на лыжах с трамплина.

**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: (017) 206-68-71.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела: 206-69-04, 206-69-06.**
**E-mail : nv@promedia.by**
**http://nv.promedia.by**

**Індэкс 63222.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**



**Ліцэнзія на выдавецкую дзейнасць ЛВ №448 ад 15 мая 2000 г. (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Нумар газеты аддрукаваны ААТ "Красная звезда" з дыяпазітываў заказчыка, 220073, г.Мінск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Падпісаны ў друк у 15.00. Аб'ём 2 друк. аркушы. Тыраж: 27 560 экз. Заказ № 592.**